Якуб Колас

# КАСТРЫЧНІК

Былі гады змагання
На грані двух эпох*)
Кастрычніцкіх паўстанняў
Ніхто не перамог.

Ірдзее сцяг чырвоны,
Як водблескі зарніц,
А творчаму разгону
Канца няма, граніц.

У ясныя прасторы
Сігаюць нашы дні,
І ўжо гараць, як зоры,
Дняпроўскія агні.

Праходзіць год за годам,
Выводзіць гмах муроў,
Жывіце-ж вы, паходы
Тытанаў-змагароў!

*) Словы „на грані двух эпох“ азначаюць — на мяжы старога і новага свету.

---

У кастрычніку месяцы 1917 года комуністычная партыя на чале з Леніным і Сталіным павяла працоўных нашай краіны ў бой супроць буржуазіі. Буржуазія з яе урадам былі разгромлены, і 7 лістапада (25 кастрычніка па старому календару) тав. ЛЕНІН абвясціў Совецкую ўладу.

На вокладцы, нарысаванай нашым мастаком В. Тіхановічам, паказан момант наступлення чырвоных матросаў з крэйсера „Аврора“ на царскі Зімні дварэц, дзе знаходзіўся буржуазны ўрад з часткай сваіх афіцэраў.

# ЛЕНІНСКАЯ ПРАЎДА

(НАРОДНАЯ КАЗКА)



Было гэта даўно. Жылі два браты ў вёсцы, поле аралі, слязмі зямлю палівалі ды горб сабе нажывалі. Хлябок у іх забіралі, а плацілі ў плечы кулакамі.

Жылі яны і не год, і не два, а невядома колькі. І навокал другія мужыкі гэтак жылі. І не хапіла ў братоў цярплівасці жыць так. Парашылі яны ісці па Расіі-матушцы, па гарадах, па сталіцах — шукаць праўды.

Ішлі, ішлі, і не дзень, і не два, многа дзён ішлі. Прышлі ў вёску вялікую, багатую. Бачаць — дом панскі, царква мураваная. Думаюць: „Знойдзем тут праўдачку“.

Прышлі браты да пана, кажуць:

— Жылі мы, жылі, і няма больш сілы жыць так. Навучы нас праўдзе.

— Добра, — кажа пан, — пакажу я вам праўду. Толькі вы мне папрацуйце за яе.

Згадзіліся браты. Працавалі яны, працавалі, поле аралі, слязмі зямлю палівалі ды горб сабе нажывалі.

Мінуў год. Прышлі браты да пана. Пан кажа:

— Ну, вось ваша праўда, галыцьба вы нямытая, — працаваць вам заўсёды на нас, паноў вашых.

Так і пайшлі браты, нічога не дабіўшыся. Не знайшлі ў пана праўды.

Пайшлі яны ў царкву мураваную, думаюць: „Можа, у бога праўду знойдзем“.

Вышаў поп, багаты не менш за пана, кажа:

— Што, мужычкі, праўду шукаеце? Добра, я вам праўду ў цара нябеснага вымалю, а вы на мяне тым часам папрацуйце.

Згадзіліся браты, працавалі яны, працавалі, поле аралі, слязмі зямлю палівалі, горб сабе нажывалі.

Мінуў год. Прышлі браты да папа, а ён ім кажа:

— Працуйце ды служкам божым дагаджайце. Вось ваша праўда, дзетачкі.

Плюнуў тут старэйшы брат, ды і кажа:

— Сам сабе ды свайму богу дагаджай, таўстапузы, а мы табе не парабкі.

Поп развойкаўся, раскрычаўся, але браты былі ўжо далёка.

Пайшлі яны да купца. Вышаў купец, за папа і пана багацейшы, гладкі.

— Добра,—кажа,—навучу я вас праўдзе—працуйце на мяне.

Сталі браты працаваць, горб нажываць. Вучыў іх купец, як народ сумленны ашукваць, бедных абмерваць. Не дачакаліся і года, як кажа малодшы брат:

— Не пайду я больш праўды шукаць, няма яе на свеце, праўды мужыцкай. Вярнуся я ў вёску.

Вярнуўся малодшы брат у вёску.

А старэйшы брат, няўступчывы, не хацеў без праўды дахаты варочацца. Пайшоў ён да фабрыканта. У таго фабрыка была вялікая—на тысячу машын. А сам і за папа, і за пана і за купца — за ўсіх сыцейшы. Пачаў старэйшы брат у яго працаваць. А на фабрыцы яшчэ шмат іншых мужыкоў з розных канцоў Расіі працуюць. Працавалі яны не год і не два, шмат гадоў працавалі. Горб нажывалі, а праўды не бачылі. Толькі аднаго разу чуе старэйшы брат на змене ціхую гутарку:

— Ёсць чалавек адзін, на поўначы жыве, у Піцеры. Другога такога чалавека на зямлі няма. Завуць яго Ленін. Ён праўду ведае.

Запомніў старэйшы брат імя тое, пакінуў фабрыку і пайшоў Леніна па свеце шукаць. Ішоў, ішоў, і не дзень, і не два, ішоў многа дзён. Прышоў у Піцер. Кажа ён там на вуліцы аднаму рабочаму паціху:

— Дзе мне тут у вас Леніна знайсці?

А той яму ў адказ яшчэ цішэй:

— Ды хто-ж у нас з рабочых Леніна не ведае? Хадзем, я цябе завяду.

І прывёў ён старэйшага брата к Леніну. Увайшоў старэйшы брат, бачыць—пакой звычайны, кніг шмат. Вышаў да яго чалавек, адзеты небагата, у абыходжанні просты, як свой брат рабочы. Кажа:

— Добры дзень, таварыш. Што скажаш?

Расказаў яму старэйшы брат, як яны з малодшым праўду шукалі, як брат у вёску без праўды вярнуўся, а ён далей на фабрыку пайшоў. Доўга гаварыў з ім Ленін, аб парадках на фабрыцы распытваў, аб крыўдзе вясковай. І сказаў яму Ленін:

— Правільна ты зрабіў. На фабрыцы ты праўду лепей спазнаеш. Вы яе там у руках трымаеце.

І расказаў Ленін старэйшаму



*Прышлі браты да папа.*

брату, як за рабочую праўду змагацца, каб панам не служыць, папоў не слухаць, на купцоў і фабрыкантаў не працаваць, а выгнаць іх з царом разам. Толькі трэба ўсім рабочым за адно стаяць, і сяляне каб былі з рабочымі.

Вярнуўся старэйшы брат на фабрыку. І пачаў ён другім ленінскую праўду тайнымі словамі расказваць. Адзін расказвае—дзесяць слухаюць; дзесяць расказваюць,—сто слухаюць. І пайшла ленінская праўда гарачымі словамі па фабрыках і вёсках. І год па свету хадзіла ленінская праўда, і два хадзіла, шмат гадоў хадзіла, уздымала рабочых ды сялян на змаганне. А ў кастрычніку гучным голасам, гарматамі на ўвесь свет аб'явілася.

І пайшлі рабочыя і сяляне на памешчыкаў ды фабрыкантаў лютаю вайной.

А на чале іх большэвікі з Леніным і Сталіным, лепшым яго памочнікам. І ўзяла верх у Кастрычніку ленінская праўда.

З таго часу ні рабочыя, ні сяляне на фабрыканта ды на пана не працуюць. Гарба не нажываюць, слязмі зямлі не паліваюць. Самі гаспадары сваёй зямлі.

*Запісана казка ў Варонежскай зобласці.*



*Пайшоў старэйшы брат да фабрыканта.*

# ТАВАРЫШ СТАЛІН

## З БІЯГРАФІІ ПРАВАДЫРА

### ІОСІФ ДЖУГАШВІЛІ

Не паспеў змоўкнуць званок у доўгіх няўтульных калідорах Тыфліскай семінарыі, як у іх ужо расце шум і грукат. Вучні семінарыі бягуць піць чай. Сярод іх чорнавалосы хлопчык—Іосіф Джугашвілі. Ён з насмешкаю сочыць за настаўнікамі, якія адпраўляюцца зараз рабіць вобыск у вучнёўскіх пакоях.

Джугашвілі спакойна п'е чай. Рэвалюцыйная літаратура, якую ён учора атрымаў, схавана добра. Уночы ён чытае таварышам гэтыя забароненыя кніжкі, тлумачыць, што ім няясна.

А часта вечарамі Джугашвілі зусім знікае з семінарыі. Цішком ён спяшаецца на падпольныя рабочыя сходы і гурткі.

У 1898 г. у Расіі арганізавалася першая рабочая партыя. І ў гэтым жа годзе яе членам стаў 19-гадовы Іосіф Джугашвілі.

Школьнае начальства шалее ад злосці. Яно пранюхала, што вучань Джугашвілі праводзіць вялікую рэвалюцыйную работу, але ніякіх доказаў няма. Джугашвілі ўмеў добра праводзіць сваю работу. Нарэшце яго выключаюць проста „за неблаганадзейнасць“.

### ТАВАРЫШ СОСО

Недалёка ад Тыфліса[1]) знаходзіцца вялікі рабочы горад Баку. Бакінскія рэволюцыянеры парашылі наладзіць падпольную друкарню. У Тыфлісе ў той час была вялікая рэволюцыйная арганізацыя, і вось бакінцы парашылі прасіць у тыфлісцаў дапамогі.

На сходзе камітэта вылучылі аднаго таварыша для паездкі ў Тыфліс. Далі яму адрасы,—куды прыйсці—і сказалі: „пастарайся канешне ўбачыцца з Сосо[2]) Джугашвілі. Ён—выдатны таварыш і адзін з лепшых кіраўнікоў арганізацыі. Калі знойдзеш яго — ён табе хутка дапаможа“.

Таварыш прыехаў у Тыфліс. І там неўзабаве сустрэўся з Джугашвілі. Мяркуючы па расказах рабочага, ён спадзяваўся ўбачыць ужо старога чалавека. І таварыш быў здзіўлены, калі ўбачыў зусім маладога чалавека. Але Джугашвілі не даў яму доўга дзівіцца. Хутка між імі завязалася простая сяброўская гутарка. Джугашвілі распытаў у таварыша, як ідзе работа ў Баку. Потым ён дапамог бакінскаму таварышу зрабіць сваю справу, і той радасны вярнуўся назад.

---

[1]) Тыфліс—горад на Каўказе. Цяпер сталіца Грузінскай соцыялістычнай совецкай рэспублікі і сталіца Закаўказскай федэрацыі ССР.

[2]) Сосо—памяншальнае ад слова Іосіф.

## СТАЛІН

Царская паліцыя асабліва стаpалася захапіць падпольных работнікаў пад клічкай: „Коба". „Давід", „Івановіч", „Ніжарадзе", „Сталін". Як толькі прыязджае адзін з гэтых таварышоў у які-небудзь горад,— там адразу павялічваўся рэволюцыйны рух сярод рабочых. Пачынаюцца вялікія забастоўкі, дэманстрацыі, паяўляюцца газеты і лістоўкі.

Шэсць разоў паліцыі ўдавалася арыштоўваць гэтых смелых большэвікоў. І выяўлялася, што ўсе яны былі адным чалавекам—Іосіфам Джугашвілі. Большасць рабочых ведалі яго пад клічкай „Сталін". Гэта пачэсная рэволюцыйная клічка асталася за ім на ўсё жыццё.

А Сталіным звалі Джугашвілі за тое, што ён у рэволюцыйнай рабоце быў цвёрды як сталь. Ён заўсёды ішоў разам з Леніным, памагаў яму арганізоўваць рабочых.

Сталін быў стойкім і ў час арыштаў. Аднаго разу ў турме салдаты сталі збіваць усіх рэволюцыянераў, прапускаючы іх праз строй. Сярод збіваемых быў Сталін. І ён здзівіў усіх, калі з кніжкай у руках ішоў, не згінаючы галавы, пад ударамі прыкладаў.

Шэсць разоў высылала паліцыя гэтага адважнага рэволюцыянера на далёкую поўнач. Яна спадзявалася, што Сталін там загіне. Але Сталін, часта нават не паспеўшы даехаць да месца высылкі, уцякаў. Пяць разоў уцякаў Сталін з высылкі, і рабочыя радасна сустракалі свайго кіраўніка.

## ЛЕПШЫ ПАМОЧНІК І САРАТНІК ЛЕНІНА

Сталін становіцца лепшым памочнікам Леніна па стварэнню большэвіцкай партыі. У 1912 годзе яго выбіраюць членам Цэнтральнага камітэта партыі. З незвычайнай сваёй энергіяй Сталін дапамагае выдаваць першую газету большэвікоў—„Праўду", ездзіць па ўсёй краіне і арганізуе большэвіцкія ячэйкі.

Паліцыі ўдаецца зноў захапіць Сталіна і яго высылаюць за тысячы кілометраў ад чыгункі „на край свету", у далёкую Якуцію.

Пасля Лютаўскай рэволюцыі 1917 г. Сталін спяшаецца ў Петраград (так зваўся тады Ленінград). Ён дапамагае Леніну арганізаваць Кастрычніцкую рэволюцыю.

Буржуазія шукае Леніна, каб забіць яго. Леніну прыходзіцца хавацца, і ён даручае Сталіну кіраваць газетамі большэвікоў, правесці 6-ты з'езд партыі.

У час Кастрычніцкай рэволюцыі Сталін быў адным з яе кіраўнікоў. Пасля рэволюцыі партыя ўвесь час пасылае Сталіна на тыя фронты грамадзянскай вайны, дзе вораг наступае. І пад кіраўніцтвам Сталіна армія атрымлівала адну перамогу за другой.

Пасля смерці Леніна таварыш Сталін прадаўжае яго справу.

Пад кіраўніцтвам Сталіна СССР ператварыўся ў непераможную краіну соцыялізма.

Таварыш Сталін вялікі правадыр партыі і працоўных народаў усяго свету.



# Філька чарпак



*Апавяданне І. Касогава*
*Рысункі А. Волкава*

Філька быў круглы сірата. Маткі ён не помніць, бацька забіты на царскай вайне, а дзеда засеклі белыя казакі. Уцёк Філька пасля смерці дзеда з сваёй вёскі і доўга цягаўся па лясах і балотах. Ён мог-бы так і загінуць, каб не падабрала яго наша часць.

Фільку было толькі 16 год і ў строй яго не прынялі. Але эскадронны прызначыў яго кашаварам паходнай кухні.

Кухарнічаў Філька добра. Рабіў доўгія пераходы на сваім Яргане (так празваў ён каня, што вазіў кухню) і ніколі не адставаў. Не паспеюць, бывала, байцы на прывале з коней злезці, а Філька ўжо тут, нібы з-пад зямлі выскачыў. Адкіне накрыўку і пара, як з паравоза валіць...

— Падыходзь, абед гатоў.

Заняла аднойчы наша дывізія горад Калач, Варонежскай губерні. Выбілі адтуль 4 палкі белых казакаў. Эскадрон размясціўся начаваць.

— Глядзі, хлопцы, наша фабрыка-кухня пад'язджае ўжо. Лікандра, цягні нашаму разлюбезнаму кухару падаруначак, — крыкнуў аддзялённаму камандзір узвода Крышпона.

Лікандра падбег да Фількі, трымаючы ў руках круглую і бліскучую рэч.

— Вось табе, слаўны наш кухар, падаруначак, — і ён, пад дружны рогат байцоў, адзеў Фільку на галаву кацялок.

Філька спрытна выкруціўся, зняў з галавы падарунак і з цікавасцю стаў яго разглядаць. Гэта быў кухонны чарпак, зусім яшчэ новы, бліскучы, як вычышчаны мелам пятак. Крышпона адбіў у белых кухню і вывудзіў з яе гэтую рэч спецыяльна для Фількі. Ён часта скардзіўся, што яму даводзіцца разліваць суп простым кацялком і вельмі быў рад падарунку.

Філька тут-жа прымайстраваў да чарпака доўгую дубовую ручку. Цяпер ён стаў сапраўдным кашаварам.

Аднак, у хуткім часе давялося яму страціць свой чарпак. І, дзякуючы гэтаму самаму чарпаку, удалося яму стаць сапраўдным байцом.

Было гэта так. Наш эскадрон выступіў у паход разам з другімі часцямі. Філька-ж затрымаўся ў адной вёсцы, дзе спыніўся абоз. Ён залажыў у кацёл прадуктаў, дроў падрыхтаваў і запрог пад кухню Яргана. Потым стаў прыпрагаць да яго другога каня—варанога. Але ў гэты час у сяле нечакана пачуліся стрэлы. Падняўся шум, крык... Абозы загрымелі па вуліцах.

— Белыя!—крыкнуў нехта.

Філька як зглядзіць вокам ускочыў на кухню, схапіў чарпак і крыкнуў на Яргана. Куляй вырвалася кухня з двара ды, размятаючы людзей і фурманкі, панеслася па вуліцы. Філька памятаў заўвагі Крышпоны наконт дарогі, па якой пойдзе эскадрон з палком, і адразу ўзяў патрэбны напрамак. Выперадзіў дзесяткі фурманак і выехаў наперад абозу, што ўцякаў ад белых. Аглянуўся Філька назад і скамянеў ад страху: паабапал абозу з гікам несліся казакі, секлі хурманоў і заварочвалі коней назад. Убачылі яны, што фількава кухня як паравоз уцякае ад захопленага імі абозу ды кінуліся за ім.



Свіснуў і гікнуў Філька, ударыў чарпаком каня. Сажнёвымі скачкамі памчаўся Ярган. Мінут праз дзесяць адзін за другім пачалі адставаць белыя. Толькі пярэдні казак не хацеў здавацца. Яго рыжы конь імчаўся, як матацыклет... І ўрэшце амаль дагнаў Фільку. Шагоў за 10—20 казак пачаў крычаць, каб Філька спыніўся. Але Філька не думаў здавацца і мацней штурхаў чарпаком Яргана. Казак, страляючы з нагана, патраціў усе патроны, але на скаку не мог трапіць у Фільку. І вось раптам Ярган пачаў сцішаць ход, не мог вытрымліваць шалёнага бегу... Захліпнулася фількава сэрца. „Усё прапала", падумаў ён.

Казак з радасным крыкам ляцеў на Фільку.

— Стой! Засяку, гадзіна!—крычаў ён.

Філька адвярнуўся і абамлеў ад здзіўлення і злосці: перад ім быў той самы рыжы казак, вахмістр, што засек яго дзеда Вавілу. Ужо замахнуўся вахмістр страшнай шабляй над фількінай галавой, мецячы рассеч яе папалам.

Але Філька, прыгнуўшыся да кухоннай трубы, ударыў казака чарпаком проста ў грудзі.

Удар быў такім нечаканым і моцным, што вахмістр апусціў паднятую шаблю і ледзь утрымаўся на сядле.

Чарговым трапным ударам чарпака Філька стукнуў у лоб рыжаму каню. Конь узняўся дубка і скокнуў у бок.

Азвярэўшы ад болі і крыўды, казак віхрам кінуўся на Фільку, стараючыся шабляй перасеч ручку чарпака. Аднак Філька не здаваўся. У яго маладых, але дужых руках, чарпак быў моцнай зброяй.

Тады вахмістр паспрабаваў атакаваць Фільку збоку, але атрымаў такі ўдар чарпаком па галаве, што аж грымнуўся з размаху ў пухлы дарожны пыл.

Ручка чарпака зламалася. Філька астаўся абяззброеным.

Аглушаны ўдарам казак, аднак, скора ачухаўся. Узняўся з дарогі паспеў аўладаць выпаўшай з рукі шабляй. Ярган ужо не кранаўся з месца. Філька парашыў кінуць кухню і даць драла ў суседні лясок. Толькі лёгкія маладыя ногі маглі выратаваць яго ад азвярэлага казака. Момант—і Філька ўжо імчаўся да лесу. Але раптам спыніўся.

Ад лесу проста на яго галопам нёсся цэлы узвод кавалерыстаў. „Казакі",—прамільгнула думка і Філька затросся ад жаху. Цяпер не ўцячы... Ззаду вос-вось нагоніць яго вахмістр...

Але цераз секунду Філька завыў ад радасці. Па малінавай аксамітнай кепцы і зялёных штанах ён пазнаў, што пярэдні коннік—гэта камандзір узвода Крышпона...

Эскадрон разам з палком варочаўся адбіваць свае абозы і ішоў другой больш кароткай дарогай, а на гэту дарогу для разведкі быў высланы з узводам Крышпона.



Яшчэ здалёк убачыў узвод геройскую барацьбу Фількі з казакам і спяшаўся яму на дапамогу.

— Лікандра! Ды глянь-жа ты, як наш кухар ухадзіў данскога атамана,—загрымеў Крышпона, спыніўшыся перад ашаломленым вахмістрам.

— Ну і Філька наш! Гэта табе не кухня, а бранявік самы сапраўдны. А чарпачок ты, Філя, дарэмна спаскудзіў аб гэту паганую морду. Чым-жа ты цяпер суп разліваць будзеш,—жартавалі чырвонаармейцы з Фількі.

— Эй, хлопцы, перастаньце з Фількі жартаваць! — крыкнуў Крышпона.—А ты, Філя, не бядуй. Быў слаўны казак, звалі яго Цімох Ярмак, а ты ў нас цяпер не проста Філька, а Філька Чарпак. І прозвішча гэта ты сваім геройствам заслужыў, вусім пасапраўднаму, аб чым я зараз жа і паведамлю эскадроннаму,—сур'ёзна сказаў Крышпона, хоць байцы аж за жываты хапаліся ад смеху. Ведалі яны, што камандзір узвода — мастак на розныя прыказкі.

— А за сваё геройства, — казаў далей Крышпона, — ты варты быць байцом майго слаўнага ўзвода. Вазьмі зброю гэтага белабандыта, яго баявога каня і станавіся ў нашы рады. Лікандра, запішы Фільку ў сваё аддзяленне.

Не верачы сваім вушам, схапіў Філька шаблю і наган вахмістра. Каня ўжо трымаў Лікандра...

Праз гадзіну ўзвод Крышпоны выходзіў у ачышчаную ад белых вёску. Поруч з узводам на ўдалым рыжым кані гарцаваў Філька Чарпак, новы слаўны баец.



# Алеся

ЯНКА КУПАЛА

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Гадавала матуля
Дачушку Алесю.

Гаманіў бор сасновы
У вечары і ранкі.
Над калыскай ліповай
Пела калыханкі:

— Спі, засні, мая дзетка,
Птушкі ўжо заснулі,
Спі, засні, мая дзетка,
Люлі, люлі, люлі!

— Спі, не ведай трывогі,—
Надыйдзе часінка —
На свае ўстанеш ногі,
Мая ты дзяўчынка.

Будзеш кужаль ты прасці,
Будзеш ткаці кросны,
Выглядаць долі, шчасця
У маладыя вёсны.

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Не згадала матуля,
Што выйдзе з Алесі.

Як набралася моцы
Матчына дачушка,
Паляцела да сонца
Пералётнай птушкай.

Паляцела дзяўчына
Самалётам гонкім
Над шчаслівай краінай,
Над роднай старонкай.

Адчыняе вароты
Нябесным маршрутам,
Ці як ястраб з высотаў
Скача з парашутам.

І да сонца праз хвілю,
А ўсё вышай, вышай!
Самалётавым крыллем
Воблакі калыша.

Стара маці днём, ночкай,
Марыць ля аконца:
Ужо к прасніцы дочка
Не зляціць з-пад сонца.

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Не згадала матуля,
Што выйдзе з Алесі.

# Хлеб



*Апавяданне У. Шыдлоўскага*
*Рысункі А. Волкава*

Бацька з Колькам прыехалі з млына.

— Ну, злазь, сынку,—сказаў бацька, спыніўшы каня каля клеці. Але Колька не хацеў злазіць з мяшкоў: яны былі мяккія і цёплыя. Ён сядзеў на іх, як на печы. Толькі печ цвярдзейшая і муляецца, калі доўга сядзіш, а мяшкі з мукою зусім не мулкія.

Калі-ж прышоў сусед, каб памагчы бацьку зняць мяшкі з возу, Кольку прышлося пакінуць цёплае месца і пайсці на ганак.

На ганку ён сустрэў сваю сястрычку Маню і адразу ёй пахваліўся:

— А я ў млыне доўга быў... там мяшкоў многа, аж пад самую столь, а млын вялікі... большы нават за калгасную пуню і ўсё вурчыць і грукоча.

Маня з зайздрасцю глядзіць на Кольку. Ёй таксама хочацца пабачыць, што робіцца ў млыне. Яна доўга стаіць, гледзячы на калгасную пуню, потым у сваю чаргу хваліцца Кольку:

— А я з мамай у дзядзькі была, ён мне яблыкі даваў.

У Колькі пры ўспаміне пра яблыкі аж слінка пацякла, але ён стараецца давесці Мані, што яблыкі ў параўнанні з млынам нічога няварты. Ён нават згодзіцца цэлы год не есці яблыкаў, толькі каб у млын ездзіць.

Маня стаіць на сваім:

— Але-ж яблыкі былі смачныя, салодкія.

Колька адчувае, як яму поўны рот набегла сліны і ён яе ніяк не можа праглынуць. Ён тады выплёўвае сліну і ідзе ў хату злосны на Маню, што яна ела салодкія яблыкі, а ён—не.



Назаўтра Колька вярнуўся са школы якраз к полудню. Садзіліся есці. Маці прынесла з варыўні вялікую, як каравай, булку румянага свежага хлеба. Бацька адрэзаў акраец і панюхаў.

— Харошы хлябец!

— Гэта з тае мукі, што мы ўчора намалолі?—запытаў Колька і пачаў жаваць вялікую лусту пульхнага хлеба.

— З тае самай,—адказаў бацька.—Еж цяпер, сынок, колькі хочаш. Хлеба хопіць на ўвесь год. Папраўляйся!

Бацька пазірае на Кольку і, здаецца, хоча сказаць яму нешта дужа прыемнае. Колька ведае ад чаго ў бацькі вясёлыя вочы: заўчора ў калгасе падлічылі бацькавы працадні і за іх вызначылі сто восемдзесят тры пуды збожжа. Колька сам бачыў працоўную кніжку і ў ёй пад рыскай на апошняй старонцы стаяла лічба 183.

— Як пажылі ў калгасе, папрацавалі добра, дык і хлеба цэлы засек ёсць. А то, бывала, са сваёй палоскі ледзь на насенне збіралі. Хлеб на стале тады рэдкім госцем быў,—сказаў бацька і маркотна кашлянуў.

Колька перастаў есці. Ён нібы праз сон успомніў той час, як маці хадзіла прасіць у суседзяў кавалак хлеба яму, малому Кольку, заплака-

наму і галоднаму. А вясной, як толькі паказвалася крапіва, шчаўе і лебяда, маці варыла з усяго гэтага страву, і так жылі.

Бацька тады кожную весну, як толькі раставаў снег, хадзіў працаваць да кулака Марціна за насенную бульбу. З работы прыходзіў змораным, а Колька прыставаў да яго:

— Няхай-бы ты, татка, у Марціна папрасіў хлеба...

Бацька браў тады сына на рукі, прыхінаў да сябе і ціха, спагадліва гаварыў:

— Не дасць Марцін хлеба. Не такі ён чалавек, каб даваць... цярпі, сынку. Такое ўжо наша жыццё бясхлебнае.

І Колька бачыў, як у бацькі на вачах набягалі слёзы.

Ад гэтых успамінаў холадна цяпер робіцца Кольку. Але густы і звонкі бацькаў голас перапыняе колькавы ўспаміны, нібы ад сну будзіць яго. Колька зноў пачынае жаваць хлеб і слухае лагодныя бацькавы словы:

— Мінуліся для нас галодныя гады. Не вернуцца яны ўжо ніколі...

Бацька смачна есць хлеб з прыпраўленай салам капустай і глядзіць на Кольку. Вочы ў яго не слязяцца, як раней.

Да стала падыходзіць Маня. Яна не можа ўзлезці на ўслон.

Колька ёй памагае. Усеўшыся, Маня пачынае махаць нагамі. Потым, успомніўшы, што ўчора гаварыў ёй Колька пра млын, пытае:

— А чалавекі ў млыне жывуць?

— Жывуць... А то як-жа? Мельнікі жывуць,—адказвае Колька.

— А мельнікі—чалавекі?

— Як і ўсе людзі, толькі белыя ад мукі. У млыне ўсе белыя і я быў белы.

— Я таксама хачу мельнікаў паглядзець... Возьмеш мяне, тата, к мельнікам.

— Вазьму,—усміхаючыся, кажа бацька і дае ёй намазаны маслам кавалак смачнага, пульхнага хлеба.





# АПАВЯДАННЕ ПАРТЫЗАНА

*А. Якімовіч*

*Рыс. А. Шахрая*

**Змест папярэдняга: раніцай у партызанскі атрад прыбег хлопчык Юзік. Ён расказаў, што на вёску зроблен налёт белапольскіх бандытаў. І партызаны парашылі адправіцца ў вёску ратаваць сялян ад бандытаў[1]).**

Раніца ўдалася свежая, росная; над балотам яшчэ дыміўся туман: вы. парвалася раса. Мы ішлі подбегам, падкасаўшыся, босыя: у каго былі боты і лапці — неслі ў руках. І так мы за дарогу разгарачыліся, так накіпела злосць, што ўсе з нецярплівасцю чакалі хутчэйшай сустрэчы: на сілу сваю, што і казаць — спадзяваліся цвёрда: апрача нашай гарачай злосці мы мелі наганы, вінтоўкі і немалы запас патронаў. Але наш атрад толькі нядаўна быў арганізаваўся, і дагэтуль у адкрыты бой з белымі мы не хадзілі. Практыкі такой не мелі.

Вось гэта нам і пашкодзіла. Карацей кажучы, мы проста без усялякай разведкі кінуліся з кустоў у вёску: мы верылі тым весткам, якія прынёс нам пасланец Юзік. Ён бег разам з намі, не адступаючы ні на шаг.

Толькі гэта, прыгнуўшыся, дабеглі мы да гародаў, як над галовамі празвінелі кулі і мы пачулі крыкі: „Стой, псякрэў!"

— Лажыся! — скамандаваў я.

[1]) Пачатак апавяд. гл. у № 9.

Пападалі мы ў разоры капусты, навялі прыцэлы ў бок страляўшых і... у гэты час з усіх бакоў пасыпаліся на нас белапалякі! Ах, ты чорт! Я зусім ашаламіўся: што-ж гэта? Знарок падстроена? Тады, як-жа так? Каб хто другі, а не Мірон—няўжо ён? Я глянуў на хлапчука: збялеўшы, як кужаль, ён таксама ляжаў поплеч з намі ў капустнай разоры. Не! Не можа быць! пакаяўся я за свае думкі. Тады—што-ж іншае?

— Назад!—даю я каманду, падымаюся і лячу да кустоў. Ногі самі нясуць мяне. За мной і ўсе таварышы. А тут ззаду і з бакоў крыкі, трэск ад выстралаў, свіст куляў... словам, што там рабілася за намі—не да гэтага было: не прыслухоўваліся мы ні да крыкаў, ні да куль. Кусты, хутчэй-бы кусты! Якімі прывабнымі і дарагімі здаваліся яна нам у тую хвіліну. І зусім блізенька ўжо, ну, шагоў з сотню...

І як толькі даскочыў я да кустоў, аглянуўся назад. Бачу—і таварышы ўжо тут. Толькі Юзіка не заўважыў... Ну, падумаў, з нашых кім-небудзь гэта падстроена. А ў канцы гародаў, з аднаго боку і з другога, белыя, па чалавек пяць. За імі—з-пад будынкаў і яшчэ бягуць. Што-ж рабіць? Уцякаць далей — дагоняць, думаю. Апрача таго, кусты невялікія, за імі — прагалак балота. Выскачым на гэты прагалак, — нам і канцы: тут удалося, а там верная смерць. І вось у такі момант патрэбна выбіраць рашэнне. Усё гэта, канешне, рабілася і думалася куды хутчэй, чым я вам расказваю.

— Агонь па ворагу!—камандую я, яшчэ зусім не ведаючы, якое выбраць рашэнне.—Па правай групе!—дапаўняю сваю каманду.

Смальнулі мы ўсе па правай—спыніліся, заляглі белыя. Левая-ж яшчэ ляціць напралом—вось-вось да кустоў дарвецца.

— Па левай!—крычу.

Стукнулі па левай—чалавек пару ногі задрала, астатнія таксама спыніліся, прызямліліся, што называецца. Смаляць па нас лежачы. Толькі лісце шапаціць, сячэцца ад куляў. Чую, хтосьці войкнуў з нашых ззаду. Ну, ды не да гэтага было: не аглядваюся.

Ад першых поспехаў мы нават павесялелі крыху. Перадавую лінію прымусілі легчы. А цяпер хоць падумаць можна — што далей. Бачым— заднія таксама астылі. Чалавек пяць бяжыць, а раней мне здалося дык цэлая рота. Ды ўсё-ж рана яшчэ спадзявацца на што-небудзь: сілы нашы няроўныя. Варта прарвацца іхнім чалавекам тром у наш тыл — а гэта не так і трудна—як мы адразу страцім сваю перавагу і вымушаны ці здацца,



ці загінуць. Праўда, у такім выпадку, канешне, выбара не было-б: усё-роўна смерць—так ці так...

У галаве маёй праносіліся адна за другой думкі. Страляючы, я вырашаў за адзін момант дзесяткі задач: што-ж далей? І нічога не мог прыдумаць. Ззаду, на балоце чакае смерць, спераду—таксама. Мы нібы на парахавым склепе, які вось-вось узарвецца.

Але, як часта бывае ў такіх выпадках—самы просты і разумны выхад з галавы вылятае. А такі выхад яшчэ — пакуль не позна — быў, хоць не для ўсіх: аднаму астацца тут, падтрымліваць перастрэлку, рэшта тады можа лёгка выратавацца: цішком праз кусты на балота і -- гатова. Праўда, той хто астанецца—астанецца назаўсёды, і тут зноў задача: кінуць жэрабя—каму ўміраць, ратуючы другіх — не кінеш. Выбіраць па згодзе — не да гэтага нам цяпер. У нас лічаныя секунды. Я толькі цяпер заўважаю з боку ад сябе Адама, які курчыцца ў кусце ад болі: значыць, гэта яго не мінула куля. І тут-жа вырашаю: астаюся сам...

— Хлопцы, — шапчу я, улучыўшы перапынак у перастрэлцы, — давай назад, на балота, у лес.

Глядзяць хлопцы на мяне шырока раскрытымі вачыма і—ні з месца. Я здагадваюся: канешне, я нікому не перадаваў сваіх думак, але-ж таварышы таксама думалі. А калі думалі—значыць кожнаму з іх ясна, што такі загад — смерць: шчаслівы выпадак можа выратаваць, і то не ўсіх.

— Давай назад, —паўтараю я.—Тут астаюся я сам...

Не бягуць! Пераглядаюцца сумнымі вачыма адзін з другім, страляюць.

Бачу—падступаецца да мяне самы наш маладзейшы партызан Валісь.

Махае левай рукой назад ад сябе: „бяжы, дзядзька Мацвей,—сур'ёзна шэпча з прыціскам: у цябе дзеці, жонка... ратуйся... я астаюся..."

Як-жа так? І жаль мяне ахапіў на момант, і невыказная павага да таварышавага геройства. Стаю і сам не ведаю, што зрабіць. Два чалавекі загаварылі ва мне: адзін—бяжы, другі—не: такі таварыш даражэй жыцця і ты яго пакідаеш. Не ведаю, які-б перамог, каб раптам не раздалося з-пад вёскі:

— Ур-р-ра-а!

Здавалася, цэлы полк гаркнуў там.

Бачу—ляцяць са стрэльбамі ў руках нашы, сяляне, чалавек з дзесяць. За імі—яшчэ. А праз хвіліну якую—гарод застракаціўся ад людзей.

Бліжэйшыя да іх белыя паўсхватваліся з паднятымі ўгору рукамі.

— Ур-ра!—рынуліся мы з кустоў насустрач.

Помню, не вытрымаў я гэтага „ура": слёзы цякуць самі, а я яшчэ мацней крычу. І на гародах, як тычкі, выраслі перад намі белыя: рукі ўгору: „Пан, я ваш!"

Сабралі мы гэтых паноў, сагналі ў адно месца, варту прыставілі. Аказалася іх не так і мала: аж дваццаць чалавек, ды параненых засталося на гародах некалькі.

Падыходзіць да мяне Мірон, з завязанай галавой, з вінтоўкай у руках. Я аб усім цяпер здагадаўся: ну канешне ён вывратаваў. Тут-жа пры ўсіх мы шчыра расцалаваліся, паціснулі адзін другому рукі. Кругом шум, радасць, гоман. Бачу—здалёк жонка бяжыць, дзеці.

— Як-жа гэта табе ўдалося—кажу,—сабраць столькі людзей?



Мірон усміхаецца:

— Яны, паны, дапамаглі: падчыстую сталі грабіць, а акажыся, дык вось як адказвалі, — паказаў ён на завязаную галаву.

— А чаму-ж, — пытаюся, — ты падвёў так нас: перадаў, што дзесяць, а тут вунь колькі?

— Тады было дзесяць, а потым яшчэ пад'ехалі.

Мірон расказвае мне так і раптам, нібы што ўспомніўшы, стаў шукаць вачыма навокал.

— А дзе-ж мой Юзік?

Я паціскаю вачыма. Мірон бялее ад гэтага.

— Дзе-ж Юзік мой?—вочы яго становяцца шклянымі, не міргаюць.

— Ды дзе-небудзь тут,—махнуў я рукой на гарод.—У разоры мы разам ляжалі.

— А потым?—насядае на мяне перапалоханы да смерці Мірон.

— А потым,—кажу,—прызнацца, я нічога апрача белых не бачыў.

— Бяжэм! Дзе—у якой разоры?

— У цімохавай капусце, здаецца.

Мы адарваліся ад людзей, кінуліся бегчы. За намі яшчэ некалькі чалавек—мужчын, дзяцей і жанчын. Прыбеглі ў капусту. Бачым—так, ляжыць тварам уніз. Толькі не ў тым месцы, дзе мы спачатку заляглі, а з другога канца грады...

Глянуў я на Мірона: у яго проста скамянеў твар.

Схапілі мы з ім моўчкі Юзіка, перавярнулі: сіні ўвесь, але не жоўты, як мярцвяк. І тут-жа, на радасць нашу, павекі вачэй заварушыліся, сілячыся адкрыцца, губы таксама сталі лавіць паветра...

— Жыў! Сынок, жыў!!—зарадаваўся бацька.

Я радаваўся не менш за бацьку. Мы тут-жа скінулі з сябе рубашкі, палажылі на іх нашага самага маладзейшага таварыша і гуртам памчалі яго ў хату ратаваць ад смерці.





# ТЫНАНО

*Апавяданне А. Міронава*
*Рысункі В. Тіхановіча*

*На далёкай поўначы СССР жыве невялікая народнасць—чукчы. Раней, за царом, чукчы былі самым адсталым, поўдзікім народам.*

*Зараз чукчы, як і ўсе народы нашай вялікай соцыялістычнай радзімы, зажылі па-новаму: яны маюць сваю Чукоцкую нацыянальную акругу, ствараюць свае паляўнічыя і аленеводчыя калгасы,—будуюць новае лепшае жыццё.*

Чукча Тэнэра ўцёк з пасёлка, ратуючыся ад калгаса. У пасёлку, дзе яшчэ з даўных часоў стаяла тэнэрава хатка з шкур—яранга, людзі парушалі дзядоўскія законы. Яны прагналі шамана, забралі ў багатага чукчы Энкара дзве лодкі — байдары, і пасёлак Коунэн назвалі калгасам „Чырвоны чукча“. Тэнэра таксама хацеў запісацца ў калгас, але яго перад гэтым адгаварыў багаты чукча Энкар.

Энкар позняю восенню прышоў у ярангу да Тэнэры. Яны моўчкі пілі чай. Госць злосна соп прыплюснутым носам. Потым госць спытаў:

— Ты таксама хочаш запісацца ў калгас?

— Не ведаю,—паціснуў Тэнэра плячыма,—а што?

— Ты чукча,—сказаў госць,—я таксама чукча. Ты мне верыш? Паслухай маю праўду: не ідзі ў калгас, пашкадуй жонку і дзетак.

— Чаму?—спалохаўся Тэнэра.

— Што я кажу табе, не павінен ведаць ніхто. А то святы дух пакарае. Слухай: чукчы, што ідуць у калгас, цяпер не чукчы. Ад іх адступіўся дух і цяпер яны горш за сабак. Я прыяцель табе і па-сяброўску скажу: сцеражыся. Як толькі настане зіма і лёд закрые мора, на пасёлак наляціць мор. Яго пашле злы дух. Ён заб‘е ўсіх мужчын, жанчын і дзяцей,—заб‘е калгас. Ты хочаш, каб было гэтак з табою?

— Не,—спалохана заківаў галавою Тэнэра,—але што рабіць?

— Не ведаю... Як толькі выпадзе снег, я паеду далёка на поўнач Што мне рабіць у праклятым пасёлку?..

Тады на поўнач парашыў ехаць і Тэнэра. Ён нікому не сказаў пра сваю гутарку з Энкарам. А як выпаў снег, ён перавёз сям'ю і рэчы на поўнач, далёка ад пасёлка.

* * *

Зіма настала хутка. Выпала шмат снегу. Снег адрэзаў тэнэраву ярангу ад пасёлка і ад усіх людзей. Спачатку жылося някепска, але сумна.

Сям'я ў Тэнэры была з чатырох чалавек: ён, яго жонка Укугы, дзесяцігадовы сын Тынано і трохгадовая дзяўчынка Камэт. Было яшчэ восем вялікіх, калматых сабак. Дарослыя не шкадавалі, што выехалі з пасёлка. Тэнэра паставіў капканы, але ў іх нічога не пападалася. У гэтых пустынных месцах не водзіцца нават палярная лісіца—пясец. Аднак спачатку было шмат мяса, і жыццё здавалася добрым.

Вельмі сумаваў толькі Тынано. Хлопчык ведаў, што цяпер усе рэбяты з пасёлка ходзяць у школу. Яны слухаюць там цікавыя апавяданні настаўніка пра вялікія гарады, пра Леніна. А на перапынку гуляюць у снежкі і весела-весела смяюцца.

Тынано-ж адзін тут, зусім адзін. Яму няма з кім пагуляць. Няма кніжак з цікавымі малюнкамі. Няма паперы. Няма зубнога парашку, каб пачысціць брудныя зубы.

Чаму бацька выехаў з пасёлка? Ён спрабаваў дапытвацца, але бацька маці маўчаць. Хлопчык хадзіў сумны і перастаў смяяцца.

Потым пагоршала. Ільды з восені пакрылі мора. У такіх месцах не жывуць марскія звяры—нерпа і морж. Зімою яны адплываюць на поўдзень. Запасы мяса канчаліся, а новай здабычы не было.

Праз некалькі дзён людзі абсмакталі апошнюю костку. Надыходзіў голад. Тэнэра пацалаваў аднаго з сабак і забіў яго. Сабачае мяса з'елі за два дні. Потым з'елі яшчэ шэсць сабак. Апошні—важак Каро—уцёк некуды з ярангі. Ён адчуваў сваю смерць і блукаў далёка па гурбах. Уночы выў жаласна і страшна. Каро не падыходзіў да людзей нават і тады, калі яго клікалі.

Людзі сталі слабець. Страх галоднай смерці перамагаў страх перад словам „кал-гас“. Тэнэра доўга думаў, але аднойчы адзеў лыжы і пайшоў у пакінуты пасёлак. У яго кружылася галава і дрыжэлі ногі. Вочы засціліся слязмі. Ён ішоў за дапамогаю ў калгас.



* * *

Велізарны белы мядзведзь некалькі дзён нічога не еў. Ён роў ад голаду і ішоў, цягнучы па снягу заднюю лапу. Лапа балела: нядаўна ён падышоў да пасёлка і людзі ранілі яго ў лапу. Мядзведзь уцёк, але за ім доўга гналіся сабакі. Ён уцёк і ад іх. А цяпер, шукаючы яды, ён ішоў на поўнач.

Навокал ляжалі снягі. Зоры на чорным небе здаваліся жывымі. Мядзведзь скаліў на іх драпежныя зубы і роў.

Потым далёка наперадзе ён убачыў чорную пляму. Забыўшыся на боль, мядзведзь асцярожна цягнуўся наперад. Чулым носам ён улавіў пах чалавека. У звера з новай сілаю прачнулася злосць да двуногіх ворагаў.

Тэнэра ляжаў на снягу. Ён не дайшоў да калгаса, і, аслабеўшы, паваліўся. Страціў прытомнасць. Ён паміраў ад голаду і холаду.

Мядзведзь расправіўся з чалавекам. Ён сыта аблізваўся і вурчэў. Потым звер пайшоў далей па слядах, пакінутых чалавекам.

* * *

Тынано не памятаў, колькі дзён прайшло з таго часу, як пайшоў бацька. Яны з маткаю сядзелі ў яранзе, чакаючы Тэнэры. Думалі пра смачнае мяса, якое прывязе бацька. Потым маці лягла ў кутку і прытуліла да сябе Камэт, якая плакала. Тынано накрыў іх шкурамі. У яранзе было холадна і цёмна. Хлопчык таксама залез пад шкуры.

Больш ён нічога не памятаў. Ён сніў мяса і настаўніка. Настаўнік ласкава ўсміхаўся і расказваў пра калгас.

Як толькі каля яранґі пачуўся злосны голас сабакі, Тынано прачнуўся. Ён прыслухаўся. Сабака брахаў упарта і злосна. Брэх яго быў хрыпаты і адрывісты. Заглушаючы сабачы брэх, роў мядзведзь.

Маці маўчала. Хлопчык вобмацкам адшукаў на сцяне вінчэсцер. Ён зняў яго і крануўся ісці. Але ногі не трымалі яго, і да дзвярэй Тынано дапоўз.

Свяціў месяц. Снег быў срабрысты. Худы, як цень, сабака хватаў мядзведзя за пушысты бок і адскакваў ад яго. Мядзведзь адмахваўся і, шырока разявіўшы ляпу, ішоў да яранґі.

Тынано стрэліў тры разы. Мядзведзь прысеў, нібы рыхтуючыся скокнуць. Потым паваліўся... Дрыгаючы лапамі, ён са злосцю раскопваў снег. Сабака ўчапіўся зубамі за шыю звера. Мядзведзь змоўк.

Тынано падпоўз да звера. Шурпатым ад галоднай смагі языком, ён пачаў злізваць каплі крыві з мядзведжай шыі.

Цяпер есці было што, і людзі хутка паправіліся. А праз тры дні Тынано сам пайшоў у калгас. Укуга доўга стаяла каля яранґі, праводзячы сына поўнымі ад слёз вачыма. Побач з хлопчыкам бег сабака, весела віляючы рыжым хвастом...

... А яшчэ праз шэсць дзён да яранґі пад'ехалі двое нартаў (саней). З пярэдніх саскочыў Тынано. Да іх насустрач вышла Укуга, прыціскаючы да грудзей маленькую Камэт. Маці абняла Тынано. Хлопчык смяяўся ад радасці, і маці, цалуючы яго, заплакала.

Маленькая Камэт радасна шчабятала нешта незразумелае, хлопаючы маленькімі далонямі.

Раніцою абедзве нарты крануліся назад па свайму сляду, пакідаючы ў снягу старую, дзіравую яранґу.

Наперадзе быў калгас „Чырвоны чукча“. Там былі харчы і новая яранга, якую падарыў калгас маленькаму калгасніку Тынано.






## ЛАБІРЫНТ

На манеўрах у пункце „А“ разведчыка Валодчанку выклікаў камандзір аддзялення і загадаў:

— Вось вам сакрэтны пакет. Занясіце яго ў пункт „Б“ і перадайце ў штаб палка. Ідзіце асцярожна, бо па дарогах стаіць варта „сініх“ (на рысунку варта паказана крыжыкамі). Удоўж па чыгунцы не ідзіце, — могуць „абстраляць“ з бронецягніка. Пераходзьце чыгунку толькі на пераездах. Зразумела? Паўтарыце.

Разведчык Валодчанка паўтарыў загад і адразу-ж рушыў у дарогу.

Адшукайце, рэбяты, шлях, па якім павінен быў прайсці разведчык, каб не стрэцца з вартай.

## ПТУШКА І РЫБА

Вазьміце кавалак паперы і намалюйце такія фігуркі, як на рысунку. Потым злажыце з іх арла або рыбу.







# ВОРАГІ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

*Рысункі А. Волкава*




цар.



капіталіст.



памешчык.



поп.




гарадавы.



кулак.

**Рэдактар А ЯКІМОВІЧ. Афармленне А. ШАХРАЯ. Адрэс рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ**

Друкарня імя Сталіна 18.000 экз. Заказ № 929. Уп. Галоўлітбела № Б—3563.